Год II. — № 23. Пятніца, 10-га чэрвеня (іюня) 1921 г. Цана нумару 10 марак.

# НАША ДУМКА

ПАЛІТЫЧНАЯ, ЭКАНАМІЧНАЯ І ЛІТЭРАТУРНАЯ ТЫДНЁВАЯ ГАЗЭТА.

У газэце супрацоўнічаюць: НАТАЛЬЛЯ АРСЕНЬНЕВА, Г. Б., ГЕННАДЗІЙ БОГДАНОВІЧ, ВІЛЯНЧУК, МАКСІМ ГАРЭЦКІ, А. ДМАХОУСКІ, АЛЕСЬ КАБЫЧКІН, КРАУЦОУ МАКАР, ДЗЕД КУЗЬМА, М. К-Ч., А. МСЬЦІСЛАУСКІ, ІВАН МЯЛЕШКА, АНТОН НАВІНА, АДАМ САЛАДУХ, КАЗІМІР СВАЯК, СТАНІСЛАУ ЧЫЖЭУСКІ і інш.

Адрэс рэдакцыі і канторы: Вільня, Вострабрамская, 9.
Цэны абвестак: за радок пэтыту: перад тэкстам—40 мар., сярод тэкста—60 м., на апошняй страніцы—15 марак. Увага: страніца мае 6 шпальтаў.
Падпіска: на 3 месяцы 150 польскіх марак або 10 хунтаў мукі, за граніцу 250 польскіх марак.

Пачынаючы ад 21-га нумару падпісная цана на газэту „НАША ДУМКА“ **падвышана** да **150** пол. марак на тры месяцы, за граніцу — **250** пол. марак.

Усіх паважаных падпісчыкаў просім даслаць розьніцу падпісной цаны.

**Рэдакцыя.**

## Абвестка.

**Беларускі Рэфэрат Дэпартамэнту Асьветы Сярэдняе Літвы** просіць сямейных вучыцялёў беларускіх пачатковых школ, каторыя адышлі з Ашмянскага ў Валожынскі, Вялейскі і др. паветы, і каторыя жадаюць адтрымаюць належныя ім грошы за сваю вучыцельскую працу за мінучы час, прысляць зараз жа ў Рэфэрат у Вільню, аднак не пазьней 15-га бягучага чэрвеня месяца гэткія весткі, пасьведчаныя ўрадам (валасьцяй, паліцыяй, або друг.): сямейнае палажэньне, указаўшы век, ці працуе гдзе кожны з сябраў сям'і і гдзе знаходзіцца; за сябраў сям'і прымаюцца: жонка (муж), шлюбныя дзеці і пасербы.

**Беларускі Рэфэрат.**

## Да Беларускіх інстытуцыяў за граніцай.

Рэдакцыя зьвяртаецца да ўсіх Беларускіх Інстытуцыяў, якія самі адтрымліваюць „Нашу Думку“, або давалі загад аб высылцы газэты на розныя адрэсы, з просьбай аб прысылцы падпісных грошай.

Калі ў хуткім часе грошы ня будуць прысланы, высылка газэты па гэтых адрэсох будзе спынена з 25 чэрвеня г. г.

**Рэдакцыя.**

## Патрэбен одгук.

Сёньня мы зьмяшчаем доўгае пісьмо з-за Атлантыцкага акіяну — першую ластаўку, якая дае ўсім зразумець, што час пачаць рабіць беларускую вясну сярод сялянскіх сыноў Беларусі, пролетарызованых у Амэрыцы.

Бо ня толькі пот і кроў цягне кардынальна-капіталістычная Амэрыка з фізычна здаровых дзяцей Беларусі.

Няраз горкая сьляза вясковага малайца нашага падала на зямлю далёкай, багатай чужыны, як доказ нязьмернай прастадушнай тугі па Бацькаўшчыне, пакіненай з тэй, ці іншай прычыны.

Няраз і не адну душу там за акіянам таміла няведамасьць таго, што дзееца ў далёкім на адлог, але да сьмерці блізкім сэрцу родным кутку.

Гэту далёкую цяпер ад эміграутаў Бацькаўшчыну трэба даць магчымасьць пазнаць ім, як найшырэй.

Трэба знайсьці магчымасьць хаця самую маленечкую частку сваіх культурных сіл ахвяраваць для прасьветнай працы сярод нашага пролетарыяту у Амэрыцы.

Трэба прызнаць яго вялікае значэньне для нацыянальнага руху, які можа наймацней будзе падтрыманы арганізованай грамадай рабочых-эміграутаў, калі ўдасца іх злучыць хаця-б у тым ці іншым ліку.

А ня ўдацца гэта ня можа.

Бо хіба-ж не зразумее душа ўцёкшага з быўшае рабскае Расеі і ўбачыўшага вольны грамадзянскі быт Злучаных Штатаў работніка-беларуса тых вялікіх ідэалаў незалежнасьці і соцыяльных зьмен у быце Беларусі, пад знакам якіх ідзе наш рух?

Трэба толькі пастарацца азнаёміць родныя пролетарска-эміграуцкія масы з гэтым рухам да Усебеларускага Конгрэсу і пасьля яго.

Трэба давесьці ім бязумоўную карысьць аб'яднаньня для іх простых работніцкіх інтарэсаў.

Бо ў пісьме гаворыцца, што праца неарганізованых рабочых эксплёатуецца куды мацней, чымся арганізованых.

Гэта відочная праўда. Так робіцца ня толькі ў Амэрыцы й ня толькі з беларусамі.

Але-ж Амэрыка далёка... Доляры яе страшэнна дарагія, а нашыя культурныя працаўнікі страшэнна бедныя, настолькі бедныя, што часам, як напрыклад поэт Шымаоўскі, падаюць ахвярамі галоднай сьмерці...

Дык ці-ж няма ўжо рады ніякае?

Яна павінна быць.

Поўныя кошты на прасьветную працу сярод нашых заакіянскіх братоў павінны асыгнаваць беларускія палітычныя інстытуцыі.

Скараціўшы свае міністэрыяльныя, консулярныя і розныя іншыя дыплёматычныя расходы, яны маглі-б адшукаць той невялічкі фонд, які патрэбны на гэтак вялікую мэту — на пачатак сьвятое працы.

На пачатак — бо выкліканая да арганізованага жыцьця работніцкая маса сама паставіць справу, як трэба.

Першы арганізованы дзесятак тысячаў рабочых будзе нябывалаю, зграмаджанаю нацыянальнаю сілаю, якая можа стаць магутнаю падпораю ў культурнай працы тут — на Бацькаўшчыне.

10.000 чалавек! Толькі па 10 амэрыканскіх цэнтаў з кожнага складуць 1.000 доляраў, а гэта — польскіх марак—мільён.

А на гэткую суму можна выдаць не адну беларускую кніжку, патрэбную й нашым братом за акіянам.

Дык патрэбен наш найрэальнейшы братэрскі одгук на голас, пада期ны з далёкай Амэрыкі.

Хто мае кошты, хай не шкадуе іх, паўтараем, на пачатак сьвятое чыста-прасьветнае працы сярод рабочых беларускіх масаў у Нью-Йорку, Чыкаго і іншых местах Амэрыканскіх Злучаных Штатаў.

Зерне прасьветы, кінутае на багатую глебу, вырасьце буйным калосьсем, якое густа закалышацца над роднаю беларускаю нівою.

## Ці працьвярэзяцца?

Калі ўвосень 1919 году прадстаўнікі Ураду Беларускае Народнае Рэспублікі—згодна з прапазыцыяй тагачаснага прэмьера Падэрэўскага—прыехалі ў Варшаву з конкрэтнымі праектамі беларуска-польскага паразуменьня на грунце прызнаньня Польшчай незалежнасьці Беларусі, — польскі ўрад адказаў на гэта абвешчаньнем, што ён (?!) распускае Раду Рэспублікі, а сьледам за гэтым старшыня беларускай рады міністраў Луцкевіч аказаўся інтэрнованым у Варшаве....

А гожа прыпомніць, што тады ў Віленшчыне і Горадзеншчыне быў поўным гаспадаром пан Юры Асмалоўскі, ў Меншчыне — пан Рачкевіч, што польскае войска займала палову Беларусі, што такое прызнаньне было зусім магчыма і дало-б беларускаму народу сапраўдную магчымасьць распачаць будаваньне Беларускае *Народнае* Рэспублікі.

Цераз год палажэньне на Беларускай зямлі зусім зьмянілася. Маскоўская навала дакацілася ажно пад муры Варшавы. Праўда, маскоўскае чырвонае войска аказалася разьбітым і адкінутым далёка на Ўсход, але рыскі мір пакінуў у польскіх руках ужо шмат меншы кусок Беларусі (Горадзеншчыну, частку Віленшчыны і заходні край Меншчыны) і прымусіў Польшчу офіцыяльна прызнаць незалежнасьць *Савецкай* Беларусі.

Хаця галава польскіх соцыялістаў (П. П. С.) Дашынскі пасьля гэтага і пахваляўся: «мы вас падзялілі, бо мелі сілу!», а эндэк Грабскі паціраў рукі, цешачыся, што «беларускае пытаньне мы пакінулі Расеі!»,—аднак, пасьля глыбейшае развагі, польскія палітыкі пачынаюць прыходзіць да пераканаyньня, што тое, што зроблена ў Рызе,—блага!

Бо-ж і праўда: калі-б палякі здаволіліся тымі трыма беларускімі паветамі, якія ім аддала парыская міравая конфэрэнцыя (Беластоцкі, Бельскі, Сакольскі), дык яшчэ можна было-б спадзявацца, што на гэткім невялічкім кавалку зямлі ім удасца «зьесьці» беларусаў і недапусьціць да падняцьця ў межах Польшчы беларускага пытаньня. Але той абшар, які цяпер маскалі ласкава «падаравалі» Польшчы, мае колькі мільёнаў беларусаў, дык ім горла ніяк не заткнеш, іх маўчаць ня прымусіш. Значыцца, радасьць Грабскага—перадчасная: беларускае пытаньне ў межах Польшчы ёсьць і будзе істнаваць тутака датуль, дакуль гэты кусок Беларусі будзе належаць да Польскага гаспадарства. Дый цынічнае здаволеньне «соцыяліста» Дашынскага разьдзелам Беларусі павінна абярнуцца ў гарчыню з прычыны прызнаньня хоць і Савецкай, хоць і куртатай, ды ўсё-ж *незалежнай* Беларусі.

Узьнімаецца пытаньне: чаму палякі ня прызналі *дэмакратычнай* Беларусі, каторая за прызнаньне гатова была прыстаць на цесны саюз з Польшчай, а прызналі Беларусь *савецкую*, ўвайшоўшую ў склад Маскоўшчыны?! Трэба думаць, што тут іграла ролю польская эндэцыя, якая разьлічала, што раней, ці пазьней у Расеі бальшавізм счэзьне, што тамака запануе так любая сэрцу кожнага эндэка чорная сотня, а тады, ведама, прыйдзе канец і Беларусі, як *бальшавіцкай*. Але разумнейшыя з палякоў ужо пачынаюць разумець, што рэакцыйная Расея, паняволіўшы нанова Беларусь, не затрымаецца на лініі рыскага міру, што яна працягне і на тыя Беларускія землі, якія бальшавікі параздавалі Польшчы, Літве, Латвіі. І вось, тыя самыя прапазыцыі, якія польскі ўрад адкінуў паўтара году

што вельмі шмат хто навучыўся жыдоўскай мовы і зжываюцца даволі дружна). Апрача Нью-Йорку, ў якім жыве больш як 15 тысячаў, што працуюць найчасьцей у кравецкай індустрыі, шмат жыве ў Чыкаго, працуючы ў вядомых Чыкагскіх быдларэзьнях, значны лік працуе на стале-літных заводах Пітсбургу, ў Дэтроіце на самаходных фабрыках і іншых заводах; вельмі шмат пасялілася ў нова-ангельскіх штатах Конэкцікут і Масечузэц, дзе займаюцца ў паперна-ткацкай прамысловасьці, на цэмэнтных і цагельных заводах, ў лясістых мясцовасьцях Канады, на чугунках, у рудніках, капаюць канавы, пракладаюць падземныя чугункі, будуюць дамы, дастаюць руду, займаюцца сельскаю гаспадаркаю, ў кожнай галіне ёсьць добрыя спэцыялістыя, якія прынясуць шмат карысьці нашай Беларусі..

Працуюць Беларусы ўва усіх галінах прамысловасьці, праходзяць практычную школу абсолютна ўва ўсіх майстэрках, ёсьць свае каапэратывы, як краўцоў у Бронзьвіле (ваколіца Нью-Йорку), сталяроў і цесьляў, дома-будаўляны і г. д. Большасьць працуе вельмі цяжка; Амэрыка цягне пот і кроў усіх, хто трапляе да яе, бяруць за сваю катаржную працу глупства і ня надта-ж цешацца, калі ўзяць пад увагу, што самая цяжкая і трудная праца робіцца іменна Беларускімі эмігрантамі. Працуюць цяжка, зарабляюць у параўнаньні з каранными амэрыканцамі непадобна меней; тлумачыцца гэта тым, што нашыя землякі вельмі мала цікавіліся рабочым рухам, ня ўходзілі ў саюзы, а праца неарганізованых аплачваецца куды ніжэй, як арганізованых рабочых; неарганізованыя бязьлітасна эксплёатуюцца рознага гатунку цёмнымі асобамі. Амэрыкаю Беларусы ня вельмі ужо й здаволены. Гэта можна бачыць з таго, што шмат якія жывуць па некалькі дзесяткаў гадоў у Злучаных Штатах, але гэтак сама далёкія ад амэрыканскае культуры, як кожны Беларус у Менскай, ці Горадзенскай губэрні. 95 процэнтаў ня знаюць ангельскай мовы, ні грамадзкім, ні палітычным жыцьцём ня жывуць дый ня цікавяцца, вечна думаюць аб доме, мараць, каб як хутчэй вярнуцца да сваіх родных палёў, пры першай магчымасьці пакінуць Амэрыку і скіруюцца да сваіх родных гнездаў. Паварот на радзіму трэба вітаць і патураць, як-бы там у Вас блага ня было, бо здаровыя і сьвежыя сілы пасобяць хутчэй аднавіць спопеленыя вайною і рэвалюцыяю родныя месцы, асабліва, калі прыедуць з досьледам і струмантамі; чым хутчэй будуць ехаць, тым будзе лепей для нашай радзімы, як у палітычным, так і ў эканамічным сэнсе.

Ў культурна-прасьветным жыцьці нашыя Беларусы пайшлі ня вельмі далёка; пасьля ўсерасейскай рэвалюцыі, крыху пачалі задумвацца аб тым, каб як папоўніць сваю убогую адукацыю, наадчынялі розных школаў аж да унівэрсытэту і рамесьленых майстэрняў.

Як ні балюча, але прыходзіцца констатаваць факт, што нацыянальных Беларускіх арганізацыяў у Амэрыцы няма, а значыцца няма й газэты на беларускай мове, а тое, што нехта падаў вестку, што ў Чыкаго ёсьць 30 тысяч арганізованых Беларусаў у нацыянальныя арганізацыі — гэта не адпавядае праўдзе; у Чыкаго, як і у шмат якіх іншых местах Амэрыкі Беларусы арганізованы, але толькі не нацыянальна; шмат выходцаў з Беларусі ёсьць у брацтвах ўзаемнай падмогі, якія злучаны ў адну буйную грамаду „Римско-Кафолическое Об-во Взаимопомощи“, на чале якога стаяць праваслаўныя сьвяшчэньнікі. Ёсьць грамады ўзаемнай падмогі й незалежныя—адно з мацнейшых, складзенае з Менчан і Горадзенцаў—гэта „Русско-Славянское Об-во Взаимопомощи“, якое кіруецца й кантралюецца рабочымі; апрача грамадаў узаемнай падмогі ёсьць арганізацыі прасьветныя, гурткі самаадукацыі і іншыя грамадзкія інстытуцыі; ўсе вучацца на рускай мове, аб беларускай, якою ўсе гавораць, ня думаюць, каб яе удасканаліць. Гэта й ня дзіўна: гэтулькі гадоў стараліся выцісьнуць з нас усякае разуменьне аб нашай Радзіме, што цяпер дзеля таго, каб ўваскрасіць нашу родную мову, нашу незалежнасьць і дарагую волю, нашаму народу Беларускаму прыходзіцца працаваць і часам вельмі цяжка. Але што-ж? Будзем працаваць дзеля дабра 16 мільённага народу, за яго шчасьце, за яго вызваленьне з-пад няволі; я веру, што й мы будзем жыць нароўні з іншымі народамі свабоднымі й незалежнымі, бо мы маем права на жыцьцё.

Палітыкаю беларусы ня вельмі шмат займаюцца, хаця ёсьць гурткі, вакол якіх групуюцца людзі палітычна разьвітыя, самая, хіба, многалюдная група гэта „Союз Русских Рабочих“. Вялізная большасьць Беларускіх выхадцаў не належаць ні да якіх палітычных арганізацыяў і ад палітычнага жыцьця вельмі далёкія.

Аб Беларускім руху вельмі мала ведалі, што дзеецца на нашай Роднай старонцы, бо толькі ў апошнія часы пачалі адтрымоўваць ведамасьці праз Рыгу, Коўна й Бэрлін, даведаліся якое вялікая гора выпала на нашу Бацькаўшчыну; чытаючы навіны, якіх поўны Вашыя газэты мы непакоімся да глыбіні нашых душ, мы—адарваныя ад Вас, але душою з Вамі моральна пераносім тыя мукі, якія Вы церпіце фізычна, бо зачыненьне школ, забарона гаварыць сваею роднаю моваю дзецям Беларускіх сялян, арэшт грамадзкіх працаўнікоў ня могуць пасяляць пашаны да тых, якія цяпер сталі панамі, ў нашых сэрцах зараджаецца нянавісьць, кроў наша булькоча помстаю пры думцы, што наша радзіма разьдзіраецца на лахманы, воля Беларускага народу касуецца і гэта ў той час, калі самыя маленькія нацыі адтрымалі вольнае права на істнаваньне.

Мы, сыны слаўнага Беларускага народу, ня можам супакоіцца пакуль зямля нашых бацькоў ня будзе ачышчана ад хціўцаў, якія стараюцца разарваць нашу дарагую для нас айчыну.

Нарэшце, вітаю Вас, вялікія і слаўныя барацьбістыя за вызваленьне і аднаўленьне вольнае, многапакутнае нашае Радзімы; борючыся за дабро народу свайго, Вы маеце вялікую сілу, бо праўда за Вамі, а таксама на старане праўды будзе грамадзкая думка вольных народаў і гарачае спачуцьцё нас, Беларусаў, жывучых у Злучаных Штатах. Яшчэ раз вітаю нашу родную Беларусь. Будзьце мудрымі і бодрымі ў Вашай сьвятой барацьбе за волю роднага народу Беларускага.

**С. О. Бубешка.**

Нью-Йорк,
1921 г. мая 3 дня.



## Беларускі консулят у Турэччыне.

У Константынопалі адчынены беларускі консулят. Консулем—палкоўнік Ермачэнка.

Адрэс: Consulat de la Republique demokratique Bielarus (Ruthenie Blanche), Constantinople, Rue Minarete № 5.

## Беларускі Нацыянальны Камітэт у Баўгарыі.

У Софіі адчынены Беларускі Нацыян. Камітэт. Адрэс: Comite national Bielarusien, Hotel „Novo Rodepi“ № 34, place de St. Nikolas Sofia.

Старшынёю Камітэту—гэн.-майор Галубянцоў.

## Штодзенныя весткі.

*Пятніца, 3 чэрвеня 1921 г.*

— У польскіх урадавых сфэрах дасталі весткі, што Францыя цьверда стаіць на старане Польшчы у пытаньні аб В. Сьлезіі.

— Чэхі трывожацца, каб у Цешынскай Сьлезіі не ўзьнялося паўстаньне палякоў, якіх могуць падтрымаць славакі.

— Высоўваюцца гэткія кандыдаты на пасаду міністра загранічных спраў Польшчы: Кухаржэўскі, Скаржынскі, Балінскі і Ольшоўскі.

— Амэрыканцы хочуць паслаць новую міссыю, каб абсьледаваць становішча жыдоўскага насяленьня ў Польшчы.

— У Сьлезію кожны дзень прыяжджаюць новыя ангельскія войскі.

— Сэсія Лігі Народаў адбудзецца у Жэневе 5 верасьня. Польскі урад дастаў запросіны.

*Субота, 4 чэрвеня 1921 г.*

— Прэзыдыум Славацкае Нар. Рады абвесьціў незалежную Славацкую рэспубліку. На чале яе ураду стаіць ксендз Франц Эхліцкі.

— Студэнты некаторых нямецкіх унівэрсытэтаў зрабілі пастанову выдаліць студэнтаў палякоў,

— Польскія дэлегаты заявілі ў Брусэлі, што думкі выказаныя ў праекці Гюманса, у аснове якіх ляжыць раўнапраўнасьць Коўні і Вільні, могуць быць прыняты як грунт для далейшых перагавораў.

*Нядзеля, 5 чэрвеня 1921 г.*

— Нямецкая прэса проці падзелу В. Сьлезіі.

— З Менску пішуць, што у бойках з бальшавікамі забіты атаман беларускіх паўстанцаў Дзергель.

---

Гэта грунтоўная рыса ўсходу нам вельмі падабалася, але ўгледжваючыся ў жыцьцёвыя абставіны мы прыкмецілі, што правесьці яе цалком ў жыцьцё—немагчыма. Мы прыкмецілі, што апрача маны карыснай можа быць і ёсьць яшчэ мана сьвятая. Ня толькі дзеля карысьці і з прычыны нізкіх пабуджэньняў, нельга называць сваіх ворагаў — ворагамі, а з прычыны грунтоўнай нявыразнасьці жыцьця, калі часта самыя простыя рэчы трудна назваць іх уласнымі іменьнямі. Прыклады на кожным кроку даводзяць нам аб гэтым. Не аб кожнай рэчы можна пэўна сказаць, ці любіш яе, ці не, ці добрая яна, ці благая. Вялікі абшар жыцьця застаецца нявыразным цёмным і толькі з вялікай тугой гэта шэрае можна назваць белым, або чорным.

Тое, што захад уцяміў гэтую праўду, нам вельмі спадабалася і было вельмі прынадна. Заходняе цьвярозае пачуцьцё здавалася нам зусім адпаведным да сапраўдных абставін жыцьця. З гэтага пачуцьця выплывае зах.-эўропэйская цярпімасьць да розных кірункаў людзкай думкі і яе праяваў, з гэтага вынікае і тое вельмі прыемнае асабістае захаваньне заходняга эўропэйца, якое сваей далікатнасьцю так ад‘значае яго ад простага і грубога ўсходу.

Дык вось, нам вельмі падабалася і цягнула шчырасьць і вызначанасьць усходу, а з другога боку — большая об‘ектыўнасьць і болей чалавечае захаваньне захаду. Жыцьцё вымагала сінтэзу, згарманізаваньня абодвых кірункаў, але гэта, як убачым, зрабілася немагчымым.

У сваёй акрэсьленасьці кірунку, нахілу ўсё даводзіць да канчатку, ўсяму даваць аднолькавую форму, ўсход даходзіць да абсурду. Як драбніца, вышла і тое, што ўсход не прызнаваў нас, як беларусаў, а вымагаў ад нас прыняцьця свайго ўсходняга выгляду, які, па ўсходняму разуменьню, быў абавязковым. „Славянскіе ручьи сольются в русском море“—вось як падгрунтовавалася абавязковасьць абмаскаліцца. З гэтага вынікае гвалт і ўціск нашай індывідуальнасьці, з гэтага — гвалтоўнае жаданьне адняць наш твар. Яны ня ўцямлялі, што разам з беларушчынай мы трацім і лепшую частку чалавечнасьці.

Нашага вызваленьня, нашага ратунку ад прымусу ўсходу мы чакалі ад захаду. Ён ішоў да нас з прыемнай усьмешкай на рожавых вуснах, і мы гістарычна пазнаёміліся з гэтым ласкавым выглядам. Праўда, нашым бліжэйшым захадам былі славяне, палякі, і заходнія ўплывы прынялі ў іх спэцыфічна-славянскія выразы, але ўсё-ж гэта быў захад. Прынцып ня толькі ня лічыць шэрае чорным, але сьцерагчыся і белае назваць белым быў прыняты і нашымі суседзямі. І глыбокі народны гістарычны досьлед навучыў нас, што калі заходні чалавек робіць вам прыемнасьць, дык гэта ня знача, што з яго боку ня будзе прыкрасьці. Яго пацалунак сьведчыць ня толькі аб прыхільнасьці, але і аб магчымасьці здрады: такі ўжо глыбокі, народны досьлед.

Гэтая рыса Захаду моцна адчувалася ў яго адносінах да нас. Ён прынес нам найлепшыя ідэі: гуманістычныя, лібэральныя, дэмакратычныя, але разам з пекнымі словамі заўсёды зьмяшчаліся гвалт духоўны і эканамічны, эксплёатацыя, ўціск, зьнявага. Пекныя словы і благія дзеі неяк дзіўна і незразумела для нас ужываліся ў заходнім жыцьці.

Усход гвалціў нас ў імя шырокіх заданьняў: ў імя зьліцьця ўсіх славянаў, ў імя аб‘яднаньня пролетарыяту ўсяго сьвету. І гэта ня толькі ад‘знака маскалёў, а усяго ўсходу наогул, бо навет адзін харвацкі поэт і той кажа, што харваты абновяць сьвет, пойдуць на чале паўстаньня проці „гнілога захаду“ і створаць вялікі ўсясьветны культурны сінтэз. А захад не такі, захад такой абмылкі ня зробіць: ён ведае няздпльнасьць, немагчымасьць рэалізацыі такіх ідэй. Але практычна адносіны да нас ўсходу і захаду розьняцца толькі ў драбніцах: не па сутнасьці, а толькі па колькасьці, велічыні. Усход адразу захоплівае шмат, захад — па сваёй далікатнасьці—меней. Ніводзін эўропэйскі імпэрыялізм не параўнаецца ў сваіх замерах і плянах з маскоўскім Інтэрнацыяналам, так сама і Варшава ніколі ня квапілася на Маскву, або Прагу, тады як Масква зусім шчыра ў сваім славянафільсцьве хоча валадаць і Прагай і Варшавай і Белградам і Софіяй.

Затое захад — вялікі чалавек на малыя справы і яго здольнасьці моцна адбіваюцца на беларускай шыі. Польшча ня верыць ў сваё славянскае прызваньне, яе мэсыянізм — ўсходняга капыла, яго творца—беларус па крыві—Міцкевіч. Але для сапраўднага паляка яго мары—так, пекныя словы, а арганічна зразумелай і прыемнай польскаму сэрцу засталася „idea jagiełłońska“, вельмі далёкая ад міцкевічаўскага мэсыянізму, толькі штучна ім прыаздобленая. Тут справа не ідзе аб усім сьвеце, аб ўсіх славянах, не—Польшча хоча быць «od morza do morza».

І вось ідзе гвалт над нашымі душамі, бо мы прыпадкова апыніліся так сама паміж абодвымі морамі. Тут захад ідзе з ўсей жорсткасьцю ўсходу: гвалт, прымус, зьдзек, вырываньне душы беларуса ідзе разам са ўсімі атрыбутамі прыемнага заходняга твару.

* * *

За даўгія вякі гнёту і зьдзеку над нашай душой мы ўцямілі, што якую скуру сілком не накінь чалавеку, ён застанецца незадаволеным, бо заўсёды ён захоча першна-перш быць самім сабой, чалавекам, а не замарожаным каталіком, або праваслаўным, выгаленым на адзін капыл расейцам, ці паляком, прававерным буржуём, ці камуністым. У гэтыя цесныя мізэрныя рамкі не ўсадзіць вялікай душы чалавека. Векавое дасьвядчэньне кажа нам, што вольнага разьвіцьця нашага духу не запэўняе ні заходняя ні ўсходняя культура, бо яны абяртаюцца ў формах гвалтоўнага, людаежнага мэсыянізму і розьніца між імі толькі ў назовах, лёзунгах, а іх аціскаючыя ланцугі—аднолькавы для нашага духу.

Трэба шукаць на другіх шляхох...

Каб запэўніць нашаму народу вольную творчасьць ўва ўсіх галінах жыцьця, трэба стварыць і адпаведныя, свае беларускія формы жыцьця. Гэта-ж зусім ясна, але ў сьветлым імкненьні духовага адраджэньня хаваецца і вялікая небясьпека: каб як замест чужацкіх мэсыянізмаў не стварыць свайго, ўласнага, каб як, знойдзеныя формы новага беларускага жыцьця, не зрабіліся для нас саміх вялікай турмой і зьдзекам. Бо на прыкладзе чужацкіх мэсыянізмаў мы бачылі, як страшэнна сьціскае жыцьцё адтрымаўшая неакрэсьленую ўладу форма. З нашага высокага парыву індывідуальнага і народнага адраджэньня ня створым-жа гвалту і енку ні для іншых, ні для саміх сябе: не павінна быць беларускага мэсыянізму. І ў вялікім і малым, і для сваіх і чужых, ён — прымус, зьдзек і смерць. Уласным коштам—мільёнамі сьмерцяў, хваробы, нуды служылі мы чужацкім мэсыянізмам. Не на гэтай падставе збудуем нашу будучыну.

Трэба шукаць на другіх шляхох.

Трэба пазнаць, дзеля чаго сучаснае жыцьцё нашых сўседзяў прыняло такія сьціскаючыя, гвалтаўнічыя, бяздушныя формы.

**Ігнат Абдзіраловіч.**

(*Працяг будзе*).

было прычынаю? — трудна сказаць. Хоць, як ведама, усе каапэратывы, ня лічачы Гарадзенскага Рабочага Каапэратыву, панесьлі аднолькавыя страты ад бальшавікоў. Ва усіх каапэратывах пазабіралі тавары і касу, але зараз-жа па выхадзе бальшавікоў жыдоўскія і беларускія каапэрацыйныя таварыствы, сабраўшыся на сход, пагутарылі і паадчынялі каапэратывы. Няўдачу польскіх каапэратываў іншыя тлумачаць неарганізованасьцю польскіх каапэратыўных кругоў, а эндэкам не пара цяпер займацца эканамічнымі справамі, калі ня зроблены палітычныя. У вясковых-жа сялянскіх каапэратывах кіраўнікамі былі, найчасьцей, ксяндзы, або войты, каторыя, уцякаючы ад бальшавікоў пагублялі грошы, а сялянін адпавядай сваею складчынаю. Такія штукі ня вельмі спадабаліся сялянам, ў іх зьявілася апатыя да паўторнай арганізацыі каапэратываў. Сход за сходам зьбіралі ксяндзы, тлумачачы пад рознымі комбінацыямі прычыну прапажы грошай, але досыць — сяляніна больш не падгаварыш? Усе яны, як па ўгавору, не зьяўляліся на сходы; нявет самыя рэлігійныя каталікі, што лічаць сябе палякамі, і тыя адмовіліся, як гэта было ў м. Лунне і яшчэ ў інш. мястэчках. Ксяндзы і войты павесілі рукі.

У той самы гарачы час спрэчак сялян з ксяндзамі за складчыны, арганізаваўся Саюз Спажывецкіх Каапэратываў Гарадзеншчыны з мэтаю аб'яднаць усе істнуючыя і зноў закладеныя каапэратывы, ня гледзячы ні на мову праваджэньня рахунковасьці, ні на кіраўнікоў яго і на самую арганізацыю, а толькі, злучыўшыся разам, падняць эканамічны стан і дабрабыт нашага рознанацыянальнага краю. Што мог-бы зрабіць Саюз ў гэтым кірунку паказала-б будучына; хоць Саюз за такі кароткі час ў працягу 4—5 месяцаў змог, пры такім труднам фінансавым становішчы, згуртаваць дваццаць каапэратываў, ў іншых з іх налічавалася да 1000 сяброў ў гарадзкіх каапэратывах, да 500 ў сялянскіх каапэратывах, абслугоўваючы цэлую воласьць. Саюз меў: свой склад тавараў, інструктарскі адзел і невялічкую бібліятэку каапэратарскай літэратуры; хоць штат служачых быў не надта вялікі, але затое пэўных каапэратыўных працаўнікоў, якія бяручы прыклад з Ангельскай ці Расейскай каапэрацыі, павялі-б справу каапэратыўнага руху далей.

14 лістапада 1920 г. быў скліканы з дазволу Павятовага Старасты п. Розена ініцыятыўны арганізацыйны Сход Саюзу, на якім спаміж прадстаўнікоў каапэратыўных таварысстваў быў выбраны часовы Урад—тры чалавекі і Надзорчая Рада 5 чалавек, каторыя, ня маючы на руках ні фэніга грошай пачалі прыкладаць усе стараньні на адшуканьне іх, як ў братніх каапэратыўных арганізацыях, так і ў прыватных дабрадзеяў, каб хоць, як кажучы, было за што рукі зачапіць. Ведама, знайшліся такія дабрадзеі, што пазычылі і за гэта ім вялікае дзякуй.

Віленскі Саюз Каапэратываў першы прышоў на помач, даўшы грашмі пазычку, праз колькі часу Саюз Польскіх Спажывецкіх Таварыстваў «Сполэм» ў Варшаве (Związek Polskich Stowarzyszeń Spożywców „Społem“) так сама даў пазычку таварамі, і яны памаглі гэтым многа падняцца Саюз Спаж. Каап. Горадзеншчыны, і ведама ў будучыне каапэратары Гарадзеншчыны не павінны гэтага забывацца.

Расхлябаць заварaную ксяндзамі і войтамі кашу і падняць дух і сьмеласьць на арганізацыю каапэратыўнага таварыства ў тым месцы, дзе ўжо яна правалілася ня так та лёгка ў забітага і запуганага вечнымі акупацыямі беларуса, але інструктары С. С. К. Г. перамаглі гэта ў іншых мясцовасьцях, як напрыклад ў м. Скідлі, ўвесцы Цыдзіках і т. д., за што заслужылі многа пустых гутарак і брахні ад прыслужнікаў польскіх эндэкаў; ксяндзы давалі волю свайму аратарству: «*Што беларусы вас абманываюць, што яны бальшавікі, навет што беларускія каапэратывы вам нічога недадуць добрага*», але сяляне ня бачачы абману рабілі сваё; войты і інструктары «Стражы Крэсовай», нагаварывалі старасьце, зьбіраючыся на з'езды, *што каапэратывы займаюцца палітыкаю, што ім прысылаюць бальшавікі на агітацыю грошы*; нашлі-ж і такіе бязглуздыя, што пасьмелі сказаць што *беларускія каапэратывы таргуюць і усе прыбыткі адсылаюць бальшавікам* — не іначай як беларускім, што ў Менску. Дзе лёгіка? Дзе довады?

Усё гэта робіцца на нашых вачох, ў падзяку за нашую шчырую працу над палепшаньнем эканамічнага быту зьнішчанай войнамі Горадзеншчыны.

*Адзін з працаўнікоў і першых арганізатараў Саюзу* **М. К.**

# Забарона рабіць беларускія спэктаклі.

*Докшыцы, Дунілові цкага павету.*

29 трауня адбыўся ў Докшыцах беларускі спэктакль на карысць закупкі беларускай літэратуры. Пастаўлен быў жарт: „Як яны жаніліся"—Валодзьскага. П'еса добра была згуляна. Асабліва добра грала настаўніца — Ганну Заблоцкую. Публікі было шмат.

На другі дзень пасьля спэктаклю надта многа ў горадзе гаварылі аб беларускім вечары і шмат куды зазывалі кіраўніка вечару п. Шашку Кастуся. Быў навет ён у магістраціе, гдзе *бурмістар паказу паперу ад 8 красавіка г.г. за № 1276 ад Дуніловіцкага старасты*, ў якой *старaста* **забараняе** *спэктаклі* **на беларускай**, расейскай і жыдоўскай мове, апрача польскай.

Калі Докшыцкая польская ўлада аднасілася „благосклонно", то знашоўся стараста, каторы забараняе.

Мусіць гэта быў апошні спэктакль у Докшыцах!

Уладзе ня будзеш працівіцца!



# БЕЛАРУСКАЕ ЖЫЦЬЦЁ.

### Ў. Караленка і А. Астроўскі на беларускай мове.

Лістапад Юрка пeратлумачыў пабеларуску расказ Караленкі—„Бяз мовы" і дзьве камэдыі Астроўскага — „Беднасьць ня ганьба" і „На бойкім месцы".

### Арышт Аляксюка.

Пасьля обыску ў кватэры Паўлюка Аляксюка, ён быў арыштаваны польскімі ўладамі. Прычыны арышту невядомы.

### Выданьне школьных падручнікаў.

Беларускім Выдавецкім Таварыствам пастаноўлена прыступіць да выданьня школьных падручнікаў па матэматыцы і фізыцы.

### Курсы для настаўнікаў.

Як мы даведаліся, для беларускіх настаўнікаў з 25 гэтага чэрвеня адчыняюцца абавязковы 3-х месячныя курсы.



# Пісьмо у Рэдакцыю.

Паважаны Пане Рэдактар!

Памясьцеце, будзьце ласкавы, ў сваёй газэце гэты ліст:

Беларускі Дзіцячы Прытулак у Горадні, за ахвяраваныя Крынскай грамадой моладзі і даручаныя праз п. Аляксандра Парука на патрэбы прытулку сем тысячаў марак складае шчырую і вялікую падзяку.

Кіраўніца прытулку
1. VI. 1921 г. **С. Буйла.**

# Адкрытае пісьмо.

Вільня,
Беларуская прэса,
Камітэт памачы уцекачом.

Зьвяртаюся да знаёмых Віленшчыны (Беларусь): А. Уласава, А. Смоліча, Янкі Купалы, З. Бядулі, бр. А. і І. Луцкевічаў, Ластоўскага (Власта) і да ўсіх каторыя мяне памятаюць. Памажэце мне і маёй сямьі праз консулства у Маскве вярнуцца на бацькаўшчыну, каб чым-колек памагчы аднаўленьню зруйнаванай вайною Смаргоні і сялянскай гаспадаркі краю.

Камітэт помачы уцекачом прашу як можна барджэй прыслаць мне з Вільні дакумэнты, аб чым, спадзяваюся, сябры парупяцца.

Вучоны аграном **М. І. Бурштэйн.**

Адрэс: Нижній-Новгород, Госуд. Университет, Агрономическій факультет преп. садоводства и огородничества.

Прыв. адрэс: Полевая ул. д. 23, кв. 3.



# Весткі з Савецкай Беларусі.

### Сьвята асьветы.

(*Сяло Станькава, Менскага павету*).

13 сакавіка пралетарыят Станькаўскай воласьці сьвяткаваў першую вялікую перамогу асьветы — адчыненьне школы II ступені. Урачыстае адчыненьне пачалося сьпевам усімі присутнымі інтэрнацыяналу, пасьля чаго выходзіў з кароткаю прамоваю арганізатар школы тав. Бязьмен А., абгаварыўшы ўсе тыя дзеі, якія давялося зрабіць раней, чым дамагліся жаданай мэты, а так сама падкрэсьліў карыснасьць дзеля мясцовых насельнікаў, адчыняемай культурнай установы Зараз за ім выходзілі й другія прамоўцы з гарачым клічам да вучняў аднясьціся з глыбокай і поўнай сьвядомасьцю да тае працы, якая чакае іх ня толькі ў сьценах школы, але й за імі. У адказ дзяцьмі з вялікім спачуваньням былі прадэклемаваны некалькі беларускіх вершаў, у якіх было барвіста адмечана цяжкое ярмо, наложанае на беларусаў ранейшым урадам, як і тварыў розныя перашкоды на шляху іх парыўкаў да сьвету й знаньня.

Урачыстасьць скончылася сьпевам інтэрнацыяналу й беларускай марсельезы.

Адчыняемая школа знаходзіцца ў былым панскім дому, у адным з лепшых дамоў ня толькі воласьці, але й павету. Ня гледзячы на недахват падручнікаў, клясных рэчаў і інш., школа наладжана здавальняюча. Пры школе ёсьць інтэрнат дзеля хлопчыкаў і дзевачак.

(„С. Б.").

### Зьнішчэньне няпісьменнасьці.

(*Вёска Строчыцы, Старасельскай вол.*).

У школу запісалася 25 чалавек, а акуратна наведваецца 15 чалавек. Яны ўжо ўсьпелі выўчыць увесь лемантар, добра чытаюць й пішуць дыктоўку сказамі ў два—тры словы. У другую групу малаграматных запісалася 40 чалавек, а наведваюцца акуратна 22 чалавекі. Яны прашлі па арытмэтыцы складаньне, адлічаньне й множаньне. Справа стаіць зусім здавальняюча.

Культурны аддзел губерскага праўленьня, прафэсыянальнага хаўрусу працоўнікаў зямлі й лесу выказвае сваю падзяку настаўніцы Бычковай за яе старannасьць і вялікую працу ў справе зьнішчэньня няпісьменнасьці.

### Гароды пры школах.

Зямельны аддзел Барысаўскага павету разаслаў загады валасным зямельным аддзелам, каб яны, у здарэньні запатрабаваньня загадчыкамі школаў, давалі школам вучасткі зямлі дзеля абробу сіламі вучняў. З многіх валасьцёў артыманы весткі аб утварэньні гародаў пры школах.

### Зямельная справа ў Бабруйску.

Бабруйскім павятовым зямельным аддзелам 75% зямлі, нацыяналізаваных маёнткаў, раздаецца працоўнаму сялянству; ідзе праца аб передачы панскай зямлі, якой лічыцца каля 11,307 дзесяньцін. Дзеля засеву гэтай зямлі трэба бульбы 357.000 пудоў, аўса 175.000 пудоў, ячменю 8.280 пудоў, грэчкі звыш 100 пудоў, лёну 1.380 пудоў.

Зарганізаваны землераспарадачны пад'аддзел, на абавязках якога ляжыць распарадак зямлі. Гэта праца вельмі затрымліваецца з-за недастачы спэцыялістаў па зямельнай справе.

N-скі галоўны атрад згадзіўся зьверхчасова бяз усякай платы паправіць машыны й сельскагаспадарчыя прылады сялянам. Чакаюць новых машын.

Рыхтуюцца да адраджэньня зруйнованай сельскай гаспадаркі. Сяляне ахвотна ўзяліся за гуртаваньне камітэтаў па паляпшэньню сельскай гаспадаркі.

У горадзе запісана 355 чал., якія маюць 500 дзесяцін. Акром гэтага ёсьць зямля вольная, кінутая грамадзянамі, выбыўшымі ў Расею й Польшчу. Гарадзкой зямлі ёсьць 548 дзес. Між іх — 233 дзес. ворнай.

Утвораны 29 калякты ваў з рабочых і служачых лікам 3745 чалавек і дзьве арцелі. Суполкам выдана 81 дзесяціна зямлі, арцелям 16 дзесяньцін. Акром гэтага выданы вайсковым установам 12 дзесяцінаў зямлі й турмовай установе 3 дзесяціны. Усяго выданы з вольных земляў годных дзеля засеву 112 дзесяцін. Работа затрымліваецца за недахватам каморнікаў.

Зямельным аддзелам утвараецца пракатны пункт. Зроблены крокі да выдачы каляктывам засеўнага матар'ялу й усялякай дапамогі. У горадзе падлічана й агледжана 346 садоў.

У гарадзкой сельска-гаспадарчай майстэрні з 1 лютага па 25 сакавіка прагатавана 303 тысячы розных рэчаў сялянскай гаспадаркі. Папраўляліся сячкарні, млыны, прыгатоўваліся сашнікі дзеля плугоў, складаліся архі й шмат інш. Цяпер робяць новыя бароны й плугі. Думаюць пусьціць майстэрню дзеля адліўкі часьцей сельскагаспадарчых машын і прыладаў.

Зямельным аддзелам купляюцца коні дзеля нардных маёнткаў і гаспадарак.

(Белроста).

### Харчэвыя справы.

По загаду камісарыяту харчаваньня Беларусі цяпер ўсяму сялянству дадаткова выдаецца па ½ фунта солі на душу. Што тычыцца газы (35.000 пудоў) і мануфактуры (500,000 арш.), то ўсё гэта забранявана дзеля абмену з сялянствам на хлеб. Рэшта мануфактуры (150,000 арш.), будзе раздадзена толькі жыхарам гарадоў Беларусі.

### Камісія дзеля абмену.

Заложана спэцыяльная тавараабменная камісія пры Камісарыяце харчаваньня Беларусі, якая павінна тэрміново апрацаваць плян тавара-абмену з сялянствам.



# Думкі аб беларускім тэатры.

Добры знак, што прэса зацікавілася беларускім тэатрам у Вільні. Сьведчыць гэта, што справа нашага тэатру ўжо настолькі насьпела, што нельга міма яе праходзіць моўчкі, або здаволівацца 3—4 радковай заметкай у хроніцы. Апошні няўдачны спэктакль драматычнага гуртка выклікаў у «Нашай Думцы» ажно трохшпальтную рэцэнзыю, а навет расейскае „Виленское Слово" памясьціла абшырную стацьцю, якой аўтор (п. А. Мстиславскій), зрабіўшы кароткі агляд датыхчасовай тэатральнай работы ў Вільні, падрабязна разглядае спэктакль з 29 траўня.

Згаджаюся з абодвымі п.п. рэцэнзэнтамі, што з мастацкага боку спэктакль быў вельмі няўдачны, гэтулькі няўдачны, што навет шкада было ўдзяляць яму так многа ўвагі і месца ў абодвых паважаных часопісях. Я думаю, што рукой шаноўных рэцэнзэнтаў кіравала хаценьне дапамагчы беларускай справе; жаданьне разьвіцьця гэтай важнай культурнай установы, якой зьяўляецца беларускі тэатр. Кіруючыся гэтым самым жаданьнем, пазволю сабе тут кінуць пару слоў, якія могуць прычыніцца да ўсестароннага асьвятленьня справы і гэткім чынам дапамогуць скрануць яе з таго мёртвага пункту, на якім яна стаіць дагэтуль.

На віленскім грунце — аднэй з важных балючак беларускай сцэны ёсьць недахват акторскага пэрсонэлю. Праўда, ахвочых служыць беларускай Мэльпомэне ёсьць шмат, але — адны з іх гэта людзі, якія ня ўмеюць беларускай мовы, другія — гэта яшчэ сыры матарыял, над якім трэба многа папрацаваць, каб зрабіць яго прыдатным для сцэны.

Гэтакім чынам перад рэжысэрам апрача яго спэцыяльных заданьняў адкрываецца шырокая работа пэдагогічная па вышкаленьню маладых артыстаў і па беларусазнаўству для старэйшых, якія яшчэ „не пасьпелі" навучыцца беларускай мовы. Ці ў гэтакіх варунках магчыма нормальная праца з рэзультатам вышэйшым з мастацкага боку за слабенькія аматорскія пастаноўкі? Не.—Але ўсё-ж такі навет і ў гэтакіх варунках можна наладзіць солідную работу. Патрэбна студыя. Палючае школьнае пытаньне выклікала да жыцьця „кароткасрочныя настаўніцыя курсы". Гэтак сама і палючае тэатральнае пытаньне патрабуе „кароткасрочных драматычных курсаў", дзе, прафільтраваўшы ўсіх паступа-

